

# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

*«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»*

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

**№ 416 Верасень 1994**
Год выд. 43

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50

## ЗАЯВА

канадыйцаў і амэрыканцаў беларускага паходжаньня, удзельнікаў 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта ў Канадзе 4 верасьня 1994 году пра палітычнае палажэньне на Беларусі

Выбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь у чэрвені-ліпені 1994 году паказалі дзьве важныя прыкметы беларускай рэчаіснасьці. Першая прыкмета — гэта тое, што дэмакратычныя выбары ў рэспубліцы магчымыя; што тая ўлада, якая не задавальняе спадзяваньняў народу, можа быць заменена новай уладай шляхам свабодных выбараў. І другая прыкмета: ідэя незалежнай дэмакратычнай Беларусі паступова пашыраецца ў беларускім грамадзтве, асабліва сярод інтэлігенцыі ды малодшага пакаленьня. Будучыня прамаўляе на карысьць дзяржаўнасьці.

Носьбітам і выказьнікам ідэі незалежнай дэмакатычнай Беларусі з самага пачатку гэтак званай перабудовы на Беларусі стаўся Беларускі Народны Фронт (БНФ). За час існаваньня Фронту, дзякуючы самаахвярнай дзейнасьці ягоных кіраўнікоў, актывістаў і прыхільнікаў, былі рэалізаваныя гэткія пастуляты нацыянальнага адраджэньня, як дзяржаўная незалежнасьць, дзяржаўны статус беларускае мовы, нацыянальная сымболіка, дэмакратычныя выбары. Дзейнасьць БНФ паспрыяла нараджэньню іншых дэмакратычных партыяў і рухаў, якія ўсё больш актыўна заяўляюць пра сябе. Але нацыянальнае адраджэньне адбываецца пакутліва, зь перашкодамі і ня ў поўнай меры. Камуністычная намэнклятура ды імпэрскія сілы зацята супрацівяцца станаўленьню беларускае дзяржаўнасьці, прыватнай уласнасьці і, арганічна спалучанае з прыватнай уласнасьцю, індывідуальнае свабоды і дэмакратыі. Супраціўнікі беларускага адраджэньня вядуць змаганьне ўсякімі сродкамі, у тым ліку й эканамічнымі — у разьліку, што чым горш будзе стаяць эканоміка, тым больш бязвартаснай будзе выглядаць уваччу абывацеля і ідэя беларускай дзяржаўнасьці. Нельга, аднак, спыняцца напоўдарогі. Жыцьцё паказала, што выстаўленыя рухам мэты нацыянальнага адраджэньня, якія яшчэ пару год таму здаваліся шмат каму недасягальнымі — гэткія як незалежнасьць, дзяржаўнасьць беларускай мовы, бел-чырвона-белы сьцяг, Пагоня — сталіся часткай сёньняшняй рэчаіснасьці. Таму й надалей выказьнікам найбольш адпаведнага для Беларусі палітычнага курсу застаюцца Беларускі Народны Фронт, створаны ім кааліцыйны ценявы ўрад ды іншыя дэмакратычныя партыі і рухі, якія трымаюцца прынцыпаў дзяржаўнасьці, рыначнай эканомікі ды мірнага сужыцьця ў Рэспубліцы Беларусь усіх нацыянальных групаў.

Удзельнікі 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі выказваюць спадзяваньне, што дэмакратычныя партыі і рухі на Беларусі цяпер, напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет, дацэняць важнасьць гістарычнага мамэнту і здолеюць згуртавацца ў адзіны дэмакратычны блёк, каб забясьпечыць кааліцыі дэмакратаў максымум месцаў у новым заканадаўчым органе.

Згуртаваньне Беларусаў Канады і Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне выказваюць сваю салідарнасьць зь Беларускім Народным Фронтам ды іншымі дэмакратычнымі партыямі і плынямі ў Беларусі і дэкляруюць усякае маральнае й міжнародна-палітычнае падтрыманьне намаганьням, скіраваным на тое, каб Беларускі народ змог выйсьці як мага хутчэй з эканамічнага і духовага крызісу.

*Пленарны сход 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі*

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

канадыйцаў і амэрыканцаў беларускага паходжаньня, удзельнікаў 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, скліканай Згуртаваньнем Беларусаў Канады і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем ў Таронта ў Канадзе 3-5 верасьня 1994 году

ДЗЕЛЯ ТАГО, што эканамічны і культурны прагрэс народу можа найлепш быць забясьпечаны ў дэмакратычнай і незалежнай дзяржаве, як пра гэта сьветчыць гісторыя заходняй цывілізацыі; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што незалежная і дэмакратычная дзяржава забясьпечвае аптымальныя ўмовы для сацыяльнага прагрэсу ды калектыўнага і індывідуальнага разьвіцьця ейных грамадзянаў; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што беларускі народ мае шматвекавую гісторыю, напоўненую ня толькі цяжкой працай, стратамі і пакутамі, але й значнымі дасягненьнямі; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што на працягу гэтага стагодзьдзя назіраецца ў беларускім народзе рост дамаганьняў незалежнасьці Беларусі, які выявіўся ў абвешчаньні незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г., Дэклярацыі дзяржаўнай сувэрэнітэту Беларускай ССР 27 ліпеня 1990 г. ды абвешчаньні 25 жніўня 1991 г. незалежнасьці Беларусі. якую замацавала прынятая 15 сакавіка 1994 г. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, што дэмакратыя і незалежнасьць дзяржаваў становяць найлепшую гарантыю міру ды міжнароднага супрацоўніцтва ў дадзеным рэгіёне, —

ДЗЕЛЯ ЎСЯГО ГЭТАГА мы, канадыйцы і амэрыканцы беларускага паходжаньня, удзельнікі 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, урачыста пастанаўляем:

1. Падтрымліваць захады ўраду Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на ўзмацненьне дэмакратычных і рыначных рэформаў і ўмацаваньне незалежнасьці беларускай дзяржавы.

2. Шукаць у канадзкім і амэрыканскім урадах падтрымкі для Беларусі - справе дасягненьня ёю сувэрэнітэту, дэмакратычнае і эканамічнае перабудовы, а таксама далейшага разьвіцьця дыпляматычных зносін з Канадаю і Злучанымі Штатамі.

3. У сувязі з надыходзячымі выбарамі ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і масцовыя органы ўлады, узяць удзел у арганізаваньні міжнароднаганазіраньня за ходам выбараў.

4. Падтрымліваць намаганьні беларускага, а таксама канадзкага й амэрыканскага ўрадаў, каб зь Беларусі была вывезеная ядзерная зброя, зьліквідаваныя расейскія ваенныя базы да замацаваная нэўтральнасьць Рэспублікі Беларусь.

5. Спрыяць адрыцьцю ў Менску канадзкага і амэрыканскага бізнэсаўскіх цэнтраў з мэтай пашырэньня гандлю.

6. Шукаць тэхнічнае дапамогі для Беларусі, улучна з дапамогай ахвярам чарнобыльскай радыяцыі ды, у спалучэньні з гэтым, разьвіцьця ў Беларусі фармацэўтычнай вытворчасьці.

7. Працягваць старанні ўвекавечыць памяць ахвяраў камуністычнага генацыду на Беларусі і за ейнымі межамі ў дачыненьні да жыхароў краіны, а таксама ствараць у Курапатах мэмарыяльны комплекс, як сымбаль гэтага генацыду.

8. Пашыраць канадзка-беларускі і амэрыканска-беларускі абмен навукоўцамі і студэнтамі.

9. Прасіць Інфармацыйнае агенцтва ЗША уключыць беларускую мову ў перадачы радыястанцыі «Голас Амэрыкі».

10. Падтрымліваць намаганьні ў справе пашырэньня ўжытку беларускае мовы ўва ўрадавых установах Беларусі, а таксама спрыяць вывучэньню беларускае мовы ў навучальных установах Захаду.

11. Спрыяць шырокаму ўжываньню нацыянальнае сымболікі — белчырвона-белага сьцягу і знаку Пагоня — у беларускім грамадзтве.

12. Вышукваць канадзкія і амэрыканскія крыніцы падручнікаў і іншых друкаваных матэрыялаў для пашырэньня ў бібліятэках і навучальных установах Беларусі.

13. Прасіць Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь стварыць магчымасьці рэгулярнага абмену пэрыядычнымі выданьнямі паміж Беларусьсю і краінамі, дзе жывуць беларусы.

## ПАГЛЯД НА БУДУЧЫНЮ...

*Палітычная дзейнасьць беларускай дыяспары, улучна зь беларускімі арганізацыйнымі структурамі ў Злучаных Штатах і Канадзе, праходзіла пад ідэалам адраджэньня-аднаўленьня незалежнае беларускае дэмакратычнае дзяржавы ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была абвешчаная 25 Сакавіка 1918 году.*

*Апошнія падзеі на Бацькаўшчыне паказваюць, што дэмакратычны працэс на Беларусі пачаўся і эміграцыя гэта шчыра вітае й будзе дапамагаць. Аднак нядаўна паўсталай Рэспубліцы Беларусь, ейнаму фармаваньню як незалежнай дзяржавы пагражае небясьпека, а таму палітычная дзейнасьць беларускай эміграцыі будзе ісьці тымі самымі каналамі і пад тымі самымі ідэаламі — адраджэньня Незалежнае Беларускае Дзяржавы ды палітычная дзейнасьць дыяспары ня спыніцца да зьдзяйсьненьня гэтых вышэйшых для Беларускага Народу ідэалаў.*

*(З дакладу Вітаўта Кіпеля на 21 Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# СОЙМАВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ БНФ

23-га ліпеня адбылася Соймавая канфэрэнцыя БНФ. З дакладам «Аб палітычным становішчы, задачах Фронту і выбарах у Вярхоўны Савет» выступіў Старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Ён адзначыў, што вынікі выбарчай кампаніі нельга расцэньваць аднязначна. Кандыдат ад Фронту не прайшоў, але Фронт умацаваў свае пазыцыі.

На працягу чатырох гадоў Фронт крытыкаваў палітыку Вярхоўнага Савету і Ураду. Ён стварыў умовы, якія дазвалялі грамадзтву вызначыцца. І яно вызначылася — як апазыцыя ў адносінах да ўладаў. Але на падрыхтаваную глебу прыйшоў іншы чалавек. Ва ўмовах эканамічнага крызісу і страты ў грамадзтве сацыяльных пэрспэктываў ён абяцаў простыя рэчы — спыніць рост цэнаў, «запусьціць» заводы, разагнаць урад. І большасьць выбаршчыкаў, незадаволеная ўладамі, паддалася на гэты папулізм, не задумваючыся, якім чынам будуць выконвацца гэтыя абяцанкі.

Ня трэба забываць, што на працягу пяці гадоў супраць БНФ была скіравана ўся моц дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Наўмысна кароткі тэрмін агітацыйнай кампаніі не дазволіў нам поўнасьцю разьбіць створаны стэрэатып успрыняцьця Фронту як разбуральнай сілы. Але шмат што зроблена. Асабліва, што датычыць асобы Старшыні БНФ. Прадэманстравана, што Фронт фактычна адзіная арганізаваная сіла, якая мае канструктыўную праграму выйсьця з крызісу і моцную каманду спэцыялістаў высокага інтэлектуальнага ўзроўню, якія ведаюць што і як трэба рабіць.

Відавочна, што пэрспэктывы на паляпшэньне сытуацыі ў краіне зараз няма. Выбары кіраўнікоў ураду паказалі, што адбылося яднаньне старой і маладой камуністычнай наменклатуры. Гэтыя людзі не валодаюць рынкавым мысьленьнем, сапраўдныя рэформы яны праводзіць ня будуць.

Нашы дачыненьні з Прэзыдэнтам зараз — не крытыкаваць яго на працягу 100 дзён, калі толькі ён ня будзе парушаць Канстытуцыю. Мы можам даваць у прэсе агляды, ацэнкі, інфармацыю, але такім чынам, каб не даваць падставы людзям Лукашэнкі заявіць, што Фронт перашкаджае ім працаваць.

У той-жа час Фронт павінен дапамагчы людзям зразумець сытуацыю. Народ чакае, што БНФ будзе дапамагаць Лукашэнку змагацца з карупцыяй. І мы будзем рабіць гэта — праз спэцыяльна створаныя камітэты, праз дэпутатаў мясцовых Саветаў, праз апазыцыю мы будзем публічна выкрываць факты карупцыі. Адначасова трэба ўмацоўваць канструктыўны імідж Фронту. Эканамічная сытуацыя будзе пагаршацца, і ва ўмовах магчымага абвалу людзі будуць шукаць, на каго абаперціся. Гэта наш абавязак перад Беларусьсю — у рашучы момант узяць на сябе адказнасьць, прапанаваць людзям апірышча, не дапусьціць, каб грамадзтва апынулася ў стане хаосу. З гэтай мэтай быў рэфармаваны Ценявы кабінэт міністраў Апазыцыі БНФ.

Трэба ўлічваць, што не за гарамі выбары ў Вярхоўны Савет, і перадвыбарчую кампанію Фронт фактычна ўжо распачаў. Вельмі важна вызначыцца ўжо сёньня адносна магчымых кандыдатаў у дэпутаты. У новым Вярхоўным Савеце патрэбны будуць не разбуральнікі, а стваральнікі. Пэрспэктыву прайсьці ў новы Вярхоўны Савет маюць вядомыя на месцах людзі, у якіх нешта ёсьць за сьпіной, і ў першую чаргу сумленныя дактары, юрысты, талковыя інжынеры. Калі такіх людзей няма ў Фронтаўскіх суполках, трэба іх шукаць, пераконваць, прыцягваць у Фронт. Галоўнае зараз — не спыняць тэмп, разумеючы, што мы з адной выбарчай кампаніі плаўна пераходзім у другую.

**В. Чуйко**

# ЦЕНЯВЫ КАБІНЭТ АПАЗЫЦЫІ БНФ

Ценявы Кабінэт Міністраў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі — альтэрнатыўны дзейнаму Ураду орган.

Мэтай працы Кабінэта зьяўляецца стварэньне і сталая ўдасканальваньне збалансаваных праграмаў выйсьця Рэспублікі Беларусь з эканамічнага і палітычнага крызісу, распрацоўка канцэпцыі сацыяльна-эканамічнага і палітычнага разьвіцьця Беларусі, падрыхтоўка законапраэктаў.

Кабінэт займаецца прафэсыйным аналізам і ацэнкай заканадаўства і дзеяньняў Ураду, навуковым прагназаваньнем эканамічных і палітычных пэрспэктываў Беларусі.

У склад Кабінэта ўваходзяць дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, іншыя спэцыялісты.

У прапановах па ўдасканаленьню Ценявога Кабінэту вызначаныя важнейшыя галіны (вобласьці) палітычна-эканамічнай структуры дзяржавы. Прадбачаныя наступныя вобласьці (міністэрствы): эканомікі; сельскай гаспадаркі і праблемаў Чарнобыля; энэргэтыкі й энэргазабясьпечаньня; рэсурсаў, працы, сацыяльнага забясьпечаньня і кантролю за праватызацыяй; фінансаў; замежных справаў; навукі й культуры; адукацыі; інфармацыі, фізычнай культуры й спорту; аховы здароўя; архітэктуры й будаўніцтва жыльля і інш.

Асноўныя задачы Кабінэту:

1. Аналіз і крытыка дзеючай сыстэмы й палітыкі ўраду па вызначаных галінах.
2. Распрацоўка праграмных палажэньняў, законапраэктаў, канцэпцыяў, паправак у заканадаўства.
3. Распрацоўка прагнозаў.

# ПРЫВІТАНЬНЕ

## ПРЭЗЫДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРУ ЛУКАШЭНКУ

Мы, канадыйцы і амэрыканцы беларускага паходжаньня, удзельнікі 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў горадзе Таронта ў Канадзе вітаем Вас, вельмі паважаны спадар Лукашэнка, на Вашым новым становішчы Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь і шчыра жадаем Вам і ўсяму Беларускаму народу як найхутчэйшага выхаду з эканамічнага і духовага крызісу, што ахапіў цэлую краіну. Беларусы Канады і Злучаных Штатаў Амэрыкі зь вялікай увагай сочаць ход падзеяў на Беларусі і спрыяюць умацоўваньню беларускае дзяржаўнасьці і дэмакратыі да выхаду Беларусі на шырэйшыя міжнародныя сувязі. Намаганьні свае ў гэтым кірунку мы будзем працягваць і ў будучыні.

Мы адначасна спадзёмся, што новы ўрад Беларусі пры Вашым прэзыдэнцтве будзе аздараўляць ня толькі эканаміку, але й беларускую нацыянальную культуру, якая пацярпела ня менш за эканоміку. Пагатоў, што эканоміка і культура цесна ўзаемазьвязаны.Мы хацелі-бы бачыць Ваша спрыяньне падвышэньню нацыянальнае сьведамасьці беларускага народу, што вынішчалася на працягу стагодзьдзяў, мацаваньню незалежнай і дэмакратычнай беларускай дзяржавы, стварэньню эканамічнай моцы Беларусі, адраджэньню нацыянальнай культуры і асваеньню здабыткаў сусьветнай цывілізацыі.

Мы асабліва спадзяёмся, што Вы паспрыяеце захаваньню цяперашняга афіцыйнага статусу беларускай мовы, як ён вызначаны ў Канстытуцыі дзяржавы і не паддасьцёся націску з боку камуністаў і іншых непрыхільнікаў беларускага нацыянальнага адраджэньня, якія дамагаюцца наданьня афіцыйнага статусу ў Беларусі таксама і мове суседняе расейскае дзяржавы, мове, якая ніякім чынам не прыцясьняецца ў Беларусі. Мы таксама спадзёмся, што Вы як дэмакратычна абраны Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь будзеце падтрымліваць адзін з галоўных інстытутаў дэмакратычнага ладу — свабоду сродкаў масавай інфармацыі.

Грамадзяне Канады і Злучаных Штатаў Амэрыкі, якія паходзяць зь Беларусі або маюць сваяцкія, эканамічныя і культурныя сувязі зь Беларусьсю, жадаюць Вам, вельмі паважаны Прэзыдэнт Лукашэнка, добрага здароўя і ўдачы ў Вашай адказнай працы на карысьць вольнай, самастойнай і дэмакратычннай Беларусі, на карысьць беларуска-канадзкага і беларуска-амэрыканскага супрацоўніцтва і дружбы ды запэўніваюць Вам у гэтам сваю падтрымку.

*Таронта, Канада, 4 верасьня 1994 г.*

*Пленарны сход 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі*

## НОВЫ ПАСОЛ ЗША Ў БЕЛАРУСІ

У сераду 21 верасьня сэнацкая камісія ўхваліла прызначэньне сп. Кенэта Ялавіца на становішча пасла Злучаных Штатаў у Беларусі. Народжаны ў Чыкага ў 1941 годзе, сп. Ялавіц быў на розных пасадах у сыстэме Дзяржаўнага Дэпартамэнту ЗША ад 1966 году. Паміж 1975 і 1993 гадамі двойчы служыў у амэрыканскім пасольстве ў Маскве, займаючыся эканамічнымі пытаньнямі, а пасьля гэтага — кіраваў у Дзяржаўным Дэпартаманце аддзелам вывучэньня краінаў былога Савецкага Саюзу.

Напярэдадні слуханьня ў сэнацкай камісіі, 16 верасьня, у Інстытуце Замежнае Службы Дзяржаўнага Дэпартаманту былі арганізаваны для сп. Ялавіца інфармацыйны сэмінар, у якім узяло ўдзел каля трыццацёх экспэртаў розных галін беларусаведы і эўразіялёгіі. На сэмінары былі прачытаныя наступныя даклады аб сучасным стане ў Беларусі й праведзеная дыскусія па іх; праф. Янка Запруднік — «Культурная палітыка»; праф. Томас Бэрд — «Рэлігійныя праблемы», праф. Дэйвід Марплс — «Сьляды Чарнобыля й іншых экалягічных бедстваў»; Даніела Грэссані (Сусьветны банк), Эд Геррэра (Дзяржпэпартамант) і Ўільям Слэйвэн (Дзяржпэпартамант) — «Агляд эканомікі і бізнэсу ў Беларусі»; Стывэн Бюрант (Дзяржпэпартамант) — увод да тэмы «Куды ідзе Беларусь?».

Як у дакладах, гэтак і ў ходзе дыскусіі ўсе выказваньні былі ў духу прыхільнасьці да ідэі дзяржаўнасьці й сувэрэнітэту Беларусі, дэмакратычных і рыначных рэформаў, але адначасна прызнавалася, што на шляху да незалежнасьці й дэмакратыі стаяць вялізарныя перашкоды.

У сваёй заяве сэнацкай камісіі замежных спраў сп. Ялавіц сказаў, што Беларусь «займае стратэгічнае месца ўва Усходняй Эўропе, утварае частку маста паміж Расеяй і Захадам ды паміж Балтыцкім морам і сярэдзіннай Эўропай». Пасол адзначыў, што рэформы ў Беларусі ідуць памалей як у Расеі ці ў Прыбалтыцы, што эканоміка ў цяжкім стане ды што Прэзыдэнт Лукашэнка «выказаў падтрымку па важным эканамічным рэформам. «Бяручы пад увагу гэтыя абставіны, — сказаў сп. Ялавіц, — я думаю, мы маем цяпер нагоду пасьпяхова супрацоўнічаць з урадам Беларусі з мэтай падвышэньня беларускага сувэрэнітэту й незалежнасьці, спрыяньня дэмакратычным і эканамічным рэформам, падтрымваньня большага гандлю і інвэстыцыяў ды працягваньня працэсу скарачэньня ядзернай зброі».

Канчальнае зацьверджаньне поўным Сэнатам сп. Кенэта Ялавіца на новым становішчы прадбачыцца ў кастрычніку, пасьля чаго сп. Ялавіц паедзе ў Менск.

## СУСТРЭЧА ДЫЯСПАРЫ ЗЬ МІНІСТРАМ

У Нью-Ёрку 23 верасьня Міністар замежных спраў Беларусі сп. Уладзімір Сянько правёў сустрэчу з групай амэрыканскіх беларусаў, каб азнаёміць беларускую дыяспару з новымі палітычнымі абставінамі на Беларусі. Сустрэча адбылася ў памешканьні Беларускай місіі пры ААН і прайшла ў прыязнай атмасфэры, паклаўшы добрую аснову для далейшых кантактаў.

# 21-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

Таронта, Канада, 3-5.IX.1994




21-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, як і папярэднія (1992 і 1990 гадоў), мела ўсебеларускі характар, хоць, у адрозьненьне ад дзьвюх папярэдніх, прадстаўнікоў ад урадавых структураў на Сустрэчы не было. Не было нават пісьмовага прывітаньня, на што зьвярнула ўвагу парляманцкая «Народная газета« (8.09). Сувязі з родным краем, аднак, цяпер нагэтулькі замацаваныя, што нядаўны палітычны віхор, які пранёсься над Беларусяй, ня мог поўнасьцяй перарваць наладжаныя кантакты. На Сустрэчы былі прадстаўнікі адраджэнскіх сілаў: сябра дэмакратычнай апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, народны дэпутат др. Аляксандар Шут, старшыня Камісіі замежных сувязяў БНФ Валянтына Трыгубовіч, прэзыдэнт ЗБС «Бацькаўшчына» акадэмік Радзім Гарэцкі, старшыня рады ЗБС «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач, былы старшыня ЗБС «Бацькаўшчына» Яўген Лецка, журналіст і фатограф рэспубліканскіх выданьняў Анатоль Кляшчук. Былі госьці з Заходняй Эўропы: Апостальскі Візытатар пралат Аляксандар Надсан зь Лёндану, мастак праф. Міхась Наўмовіч з Парыжу. Былі суродзічы зь Беласточчыны.

Сустрэча прайшла памысна з кожнага гледзішча — вынік стараннае працы старшыняў ЗБК і БАЗА, сп.сп. Міколы Ганька і Антона Шукелайца, іхных упраўаў і іншых супрацоўнікаў.



*Гаспадары сустрэчы.*
*Фото А. Сільвановіча*

На Сустрэчы было паміж 250 і 300 асобаў. Стаяла спрыяльнае надвор'е. Праграма адбывалася ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры і ў камфартабельным гатэлі Траюмф Гаўард Джонсан. У залі БГРЦ, прыгожа ўдэкараванай беларускай нацыянальнай сымболікай, былі наладжаныя выстаўкі: каляровых фатаграфіяў дактаранткі-музыколяга й выкладчыцы амэрыканскага ўнівэрсітэту Паўлінкі Сурвілла-Вахман зь ейнага 9-месячнага побыту на Беларусі ды чорна-белых фатаздымкаў беларускіх дзетак-ахвяраў чарнобыльскае радыяцыі, зробленых Анатолем Кляшчуком. Абедзьве выстаўкі рэльефна адлюстроўвалі два важныя аспэкты беларускага сучаснага быту: з аднаго боку — глыбінную плынь народнага быту, прыгажосьць і моц традыцыяў, а з другога — глыбіню чарнобыльскае трагэдыі і наканаванасьць сьмерці на самым пачатку жыцьця.

У сыботу 3-га верасьня папаўдні ў БГРЦ 21-я Сустрэча пачалася афіцыйна супольным адсьпяваньнем патрыятычнае песьні «Беларусь наша Маці-Краіна» (словы Н. Арсеньневай, музыка М. Куліковіча). Сп. М. Ганько прывітаў гасьцей і адкрыў працоўную сэсію. З прывітаньнямі, прамовамі, прапановамі, заўвагамі на сэсіі выступалі сп.сп.: А. Шукелайць (ад БАЗА — пра стан нацыянальнае сьведамасьці беларусаў), А. Шут (ад імя дэмакратычнае апазыцыі ў ВС РБ — пра сучаснае палітычнае палажэньне ў Беларусі). Я. Запруднік (з прывітаньнем ад імя Веры Запруднік, старшыні Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі), Барыс Рагуля (пра дапамогу чарнобыльскім дзецям і пабудову дэнтыстычнай клінікі ў Менску), Івонка Сурвілла (пра шырокі маштаб чарнобыльскае дапамогі канадзкага грамадзтва), Раман Кардонскі (пра патрэбу эканамічнае сувязі зь Беларусяй), Язэп Арцюх (пра палітычную акцыю беларускае эміграцыі ў ЗША), М. Ганько (пра каардынацыю дзейнасьці), Янка Сурвілла (пра пасыланьне спэцыялістаў ад імя ААН на працу ў Беларусь), а. А. Надсан (пра матарыяльную і духовую дапамогу ахвярам Чарнобыля). Р. Гарэцкі (пра ацэнку на Бацькаўшчыне дасягненьняў эміграцыі), В. Трыгубовіч (пра ролю эміграцыі ў пасылцы замежных назіральнікаў за прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі), Аляксандар Пятроўскі (старшыня Фонду Канада-Беларусь пра патрэбу наладжаньня канадзка-амэрыканска-белрускай інфармацыйнай службы). Па закранутых праблемах адбыўся абмен думкамі, прамоўцы адказвалі на пытаньні.

На сэсіі была абраная рэзалюцыйная камісія ў складзе др. Б. Рагулі, др. Я. Запрудніка і др. А. Шута.

Увечары ў гатэлі адбылася забава, якая дала нагоду ня толькі патанцаваць і чарку выпіць але й паўспамінаць са старымі сябрамі ды сустрэць новых знаёмых, пацешыцца, што сувязі між беларусаў сьвету пашыраюцца й мацуюцца.

У нядзелю ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага Мітрапаліт БАПЦ Уладыка Мікалай, у суслужэньні аа. Міхася Страпка, Міраслава Вайцюка, Васіля Андраюка і Аляксандра Радэнковіча, адслужыў сьв. Літургію, пропаведзь прысьвяціўшы пытаньню беларускасьці царквы. Прыгожа сьпяваў папоўнены гасьцямі кліўлендзкі царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. Кастуся Калошы. Уладыку Мікалаю з нагоды выхаду ў сьвет апрацаванага ім і цудоўна выдадзенага «Службоўніка» было адсьпяванае «Многая лета».

Пасьля смачнага абеду ў залі БГРЦ, у гатэлі адбыўся ўрачысты сход, адкрыты гімнамі Канады й Злучаных Штатаў Амэрыкі, адсьпяванымі Ларысай Стэльмашэнка і Оляй Лукашэвіч, адпаведна.



*Жаночы хор «Васілёк» з Кліўленду*

Сп. М. Ганько прывітаў усіх удзельнікаў, асабліва тых, што прыбылі зь Беларусі ды зь іншых далёкіх краёў, пажадаў прыемна правесьці час.

Мастацкую частку праграмы запоўнілі выступленьні хору «Васілёк» з Кліўленду пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч, пад акампанімэнт на акардыёне Фёдара Паўлаўца, а таксама салёвыя песьні ў выкананьні Л. Стэльмашэнкай, Любы Сяргіевіч-Блізьнюк. Хоць кліўлендзкі хор і ня быў у поўным складзе (сьпявалі: Ольга Дубаневіч-МакДэрмат, Валянтына Ягодзік, Тацьцяна Кананчук, Ольга Лукашэвіч, Марыя Патапенка, Аніта Рудзеўская, Люба Сяргіевіч, Кацярына Валюкевіч, Анатоль Лук'янчук і Кастусь Калоша), уся праграма была ўспрынята вельмі цёпла слухачамі. Трэба цешыць сябе думкай, што 22-я Сустрэча адбудзецца ў Кліўлендзе, калі будзе нагода пачуць песьні мілагучнага «Васілька» ў поўным складзе.

Праграму сходу ўдала вяла сп-чна Алеся Кіпель (вашынгтонскі адвакат), свабодна карыстаючыся беларускай і ангельскай мовамі.

З прамовамі на тэму дня выступілі сп. Юрка Азарка, сябра арганізацыйнага камітэту Сустрэчы (пра Курапаты, як беларускі Аўшвіц). Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч (пра сувязь беларусаў сьвету), др. А. Шут (з пісьмовым прывітаньнем ад старшыні Беларускага Народнага Фронту Зянона Пазьняка), акадэмік Р. Гарэцкі (з прывітаньнем ад ЗБС «Бацькаўшчына»), др. Я. Запруднік (пра гістарычнасьць сучаснага мамэнту ў гісторыі Беларусі), др. Вітаўт Кіпель (пра палітычную дзейнасьць беларускай эміграцыі ў Злучаных Штатах), др. Раіса Жук-Грышкевіч (з прывітаньнем ад Беларуска-Канадзкага Каардынацыйнага Камітэту і заклікам да ўдзелу ў паломніцтве наступнага дня да Беларускага Крыжа ў Мідляндзе), А. Шукелайць (з пісьмовым прывітаньнем ад старшыні братняе арганізацыі, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, сп. Расьціслава Завістовіча). Сп-чна А. Кіпель прачытала прывітаньне ад губэрнатара штату Огаё (ЗША), сп. Джорджа Вайновіча.

Др. Я. Запруднік зачытаў тры дакумэнты Сустрэчы — рэзалюцыю, заяву аб палітычным палажэньні на Беларусі і прыватаньне Прэзыдэнту Беларусі А. Лукашэнку — якія былі прыняты праз аклямацыю.

Сп. А. Шукелайць, адзначыўшы важнасьць інфармацыйнай дзейнасьці ЗБК і БАЗА, заклікаў прысутных скласьці грашовую ахвяру на газэту «Беларус» і ангамоўны «Беларускі Агляд» (было сабрана больш за 600 даляраў). Прамоўца падзякаваў таксама сп. М. Ганьку за высокі арганізацыйны ўзровень Сустрэчы.

*(Працяг на б. 4)*



*«Люблю Наш Край» — гуртам* *Фото А. Сільвановіча*

## ШОСТАЕ ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА



*Супольная малітва ў Прошчы* *Фото В. Касьцюкевіча*

На трэйці дзень 21-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі выехалі мы ў паломніцтва да Беларускага Крыжа, што ў прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў у м. Мідлянд. Раніца была сонечная й цёплая. Дарога сьвяточна-прыгожая. На душы — радасьць.

У прошчы чакаюць нас ужо мясцовыя паломнікі. Сьв. Літургію за беларускіх пакутнікаў усіх вякоў, і ўсіх нашых продкаў, адпраўляе айцец Аляксандар Надсон у вялікай, гатыцкага стылю сьвятыні, пабудаванай у 1926 годзе ў памяць паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў. Беларускія паломнікі з кніжак «Боская Літургія між Сьвятымі Айца Нашага Яна Златавуснага» перакладу на беларускую мову а. А. Надсона, сочаць за ходам і бяруць удзел у Багаслужбе. «Запаведзі Блажэнства», «Веру», «Ойча наш» і малітву перад прычасьцем «Веру, Госпадзе, і вызнаю...» — усе разам чытаюць уголас. У англясакскай сьвятыні ў неба ўзносяцца малітвы ў беларускай мове.

Пасьля Багаслужбы працэсія падымаецца на ўзгорак да Крыжа. Айцец Надсон чытае Акафіст Найсьвяцейшай Багародзіцы. На кожную песьню, ад 1-ай да 24-ай, паломнікі адказваюць літаніяй: «Радуйся... Радуйся зорка, праз якую сонца зазьзяла!... Радуйся, бо праз Цябе пакланяемся Тварцу! Радуйся, Дзева Маці!»

Ля Крыжа, аблітага сонцам, уквечанага ў падножжы астрамі, на ветры ўзьвіваюцца бел-чырвона-белы беларускі й з кляновым лістком канадыйскі сьцягі.

Малітвай да Духа Сьвятога: «Уладару нябесны, Пацяшыцелю, Духу праўды, Ты ўсюды прысутны й ўсё напаўняеш , Скарбніца Дабра і жыцьця падаўца, прыйдзі й пасяліся ў нас, ачысьці нас ад усяго благога, і збаў, Добры, душы нашы» — пачынаецца Малебен за беларускі народ.

Малітвай «Магутны Божа» Малебен закончыўся.

Старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына» Сп-ня Ганна Сурмач падыходзіць да Крыжа. Ейнае адзеньне й яна сама ў касулях верасеньскага сонца робіцца залаціста-праменнай. Яна, як беларуская Жона Міраносіца складае ўкрыжаванаму Хрысту дары. Быццам ногі Хрыста апаясвае Крыж чароўным Слуцкім поясам. Што за момант! Хто гэта думаў, што за шэсьць год прыедзе зь Менску Беларуска пакланіцца і зласкыць даніну Еўфрасінеўскаму Крыжу ў Канадзе!

«Узнясеньнем тут беларускага манумэнту, зрабілі вы надзвычай важную справу!» — кажа сп. Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі, прэзыдэнт Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына». Сп. Анатоль Кляшчук, гэтаксама госьць зь Беларусі, бязупынна робіць з усіх падзеяў паломніцтва дзесяткі здымкаў.

Шостае паломніцтва да Беларускага Крыжа й 21-я Сустрэча БПА канчаюцца полуднем. Разьязджаемся з думкай і малітвай у душы: Блаславі нас, Божа, і нашыя пачыны на славу Табе й Бацькаўшчыне-Беларусі.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

*21-я Сустрэча (Працяг з б. 3)*

Сп. М. Ганько прачытаў прывітаньне ад менскага Праваслаўнага брацтва трох Віленскіх Мучанікаў. Выказваючы падзяку ўсім арганізатарам Сустрэчы, ён зазначыў, што ў падрыхтоўцы й правядзеньні гэтага мерапрыемства ўзяло ўдзел 68 асобаў, у тым ліку працавітыя таронтаўцы, стараньнямі якіх рабіліся закупы харчоў, удэкароўвалася заля, спраўна працавала кухня, раздаваліся праграмкі, прадаваліся білеты, завозіліся і правозіліся госьці ды рабілася шмат чаго іншага. Усё гэта пакінула па сабе пачуцьце задаволенасьці з праведзенага гістарычнага зьезду, які, трэба верыць, стаўся яшчэ адным крокам да кансалідацыі й беларускага адраджэньня, і канадзка-беларускага ды амэрыканска-беларускага збліжэньня й супрацоўніцтва.

Сустрэча закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». **Я.З.**

## УРАЖАНЬНІ З СУСТРЭЧЫ

Ізноў восень, ізноў канцатыдзень Дня Працы, ізноў Сустрэча — 21-ая ўжо. Гэтым разам у Канадзе ў Таронта, Канада спаткала нас усіх ветла. Надвор'е цудоўнае — мусіць арганізатары Сустрэчы зрабілі адмысловы заказ недзе ці ў некага.

Як ужо ў традыцыі, гутаркі з удзельнікамі Сустрэчы адбываліся ў перапынках паміж урачыстасьцямі, посілкамі, на балі, на канцэрце, у кулуарах ды на дворыку пры царкве.

Гэтым разам нешта новае, аднак — фатаграфіі асобаў зь якімі гутаркі вяліся.



**Івонка Сурвілла** з Атавы, арганізатар выставаў на Сустрэчы.

Мы маем сёлета 4 выстаўкі: 2 фатаграфіяў, Паўлінкі Сурвіллы і Анатоля Кляшчука, адна акварэляў беларускіх народных касьцюмаў Міхася Раманюка і адна маляванка — Мірскі замак — Віктара Маркаўца. Але гэта фактычна адна выстава — любові да Беларусі выказаная рознымі спосабамі.

Паўлінка між трымя тысячамі здымкаў, якія яна зрабіла у часе сваёй доктарскай працы ў Беларусі, выбрала 22, якія найбольш выражаюць яе захапленьне беларускай культурай. Кляшчук выказвае сваю трывогу за Бацькаўшчыну калекцыяй вельмі моцных здымкаў дзетак-ахвяраў Чарнобыля. Раманюк стараецца запісаць на паперы беларускія нацыянальныя традыцыі. А Маркавец улажыў сэрца у сваё палатно, якое адлюстроўвае слаўную мінуўшчыну Беларусі.

Любоў да Беларусі якраз і яднае нас усіх тут на гэтай 21-ай Сустрэчы.



**Анатоль Кляшчук**, фатограф зь Менску.

У Амэрыцы ўжо другі раз, але гэта мая першая Сустрэча. Як прафэсыйнага фатографа, мяне захапляюць найбольш людзі, цікавыя рысы — падабаецца мне наглядаць як людзі спатыкаюцца, знаёмяцца. Вельмі цікава у чужой краіне спаткаць беларусаў, сапраўдных беларусаў, тыповых беларусаў. На забаве, учора пры глядаўся як танцуюць — тут выяўляецца тэмпэрамэнт людзей. Танцуюць усе і маладыя й старэйшыя. Не забыліся старынныя танцы. Могуць быць розныя пагляды ў людзей, але ў адчуваньні свайго, мы блізкія — палітыка тут на другім мейсцы.

Агульнае ўражаньне аб Сустрэчы? Уражаньняў шмат, цяжка абагульніць, у некаторых мамэнтах быў вельмі ўзрушаны. Адчуваю сябе, аднак, не як удзельнік, а як наглядальнік — але бяз крытыкі, ці без выказваньня сваіх эмоцыяў. Вельмі задаволены, што ўдалося папасьці на сустрэчу.



**Анатоль Лук'янчык** з Кліўленду.

Бываю на ўсіх сустрэчах, хіба што можа раз прапусьціў. Як адзін з актыўных удзельнікаў сустрэчы ў Кліўлендзе ў 1990-м годзе, якая была вельмі пасьпяховая, бо была ў новазбудаванай залі і зьехалася шмат людзей і ў пяршыню зь Беларусі, мушу зазначыць, што на сёлетняй сустрэчы сабралася меней людзей. Прычыны няведамыя, ці то нядбаюць, ці забываюць нашую традыцыю. Я сам амаль ня прыехаў, бо толькі ў гэтую пятніцу пахавалі бацьку, Аляксандра Лук'янчыка, і цэлая сям'я вагалася, але на сямейным савеце вырашылі, і ведалі, што гэткая была-б і воля бацькі, што трэба ехаць, бо гэта-ж нашая традыцыя, трэба каб хоць нехта зь сям'і быў на сустрэчы — гэта ня нейкая забава, а культурная справа.

Чакаем заўсёды спаткаць старых знаёмых зь дзяцінства й маладых гадоў і суродзічаў зь Беларусі і пачуць весткі адтуль, бо сэрца й днюе й начуе на Беларусі.

**Аляксандар Шут**, Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.

Першы раз на Сустрэчы. Прыехаў у Таронта ў канцы жніўня і не адчуваю сябе як у замежнай краіне — чую увесь час сваю мову, ежа свойская, людзі такія гасьцінныя.

Першае ўражаньне з сустрэчы пазытыўнае. Беларусы моцная нацыя, якая не загубіла сваіх каранёў і захавала сваю гістарычную й этнічную памяць. Людзі паколькі могуць дапамагаюць Беларусі — і маральна і духова й часткова матарыяльна. Такое вялікае уражаньне, бо нашая старая прапаганда падавала гэтых людзей, як ворагаў, якія займаюцца толькі бізнэсам.

Адно што заклапочвае гэта тое, што ў арганізацыях мала маладых. Эміграцыя нам гэтак шмат перадала — любоў да Беларусі, мову, а вось сваім дзецям не заўсёды змагла перадаць.

Што цікаве я тымчасам зразумеў, што беларуская эміграцыя можа быць вельмі карыснай для Беларусі, як лабэісты ў амэрыканскіх і канадыйскіх урадавых колах — для нас гэта вельмі



важна, бо Беларусь дагэтуль знаходзіцца ў інфармацыйнай блякадзе.

Я яшчэ тут буду да 24-га верасьня. Прыезд мой меў дзьве мэты: удзел у сустрэчы, інфармаваць пра БНФ і апазыцыю і расказваць аб працы, якая цяпер праводзіцца, і другая — пазнаёміцца з сыстэмай аховы здароўя ў Канадзе, бо сам лекар і ў Ценявым Кабінэце БНФ пакліканы на кіраўніка міністэрства аховы здароўя.

# БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ



**Каця Вініцкая** з Каліфорніі.

Праз апошнія дзесяць гадоў бывалі на ўсіх сустрэчах. На гэтай Сустрэчы заўважаецца, што меней людзй. Відаць што мы ўжо старэем, а моладзі ня відаць, ім мусіць ня цікава, ці яны ўжо усе занятыя сваёй прафэсыяй. сваімі сем'ямі. Гэта вельмі сумная зьява. Я сама укладаю усю сваю душу ў гэта. Цэлыя два гады чакаю на наступную сустрэчу. Цікава спаткаць знаёмых і пазнаёміцца зь новымі людзьмі, асабліва з людзьмі зь Беларусі, якіх цяпер бывае ўсё больш і больш. Вельмі было цікава пачуць дэпутата Шута — ён так цікава й шчыра гаварыў аб тым што робіцца на Беларусі.

Сустрэча зарганізаваная добра. Усё йдзе па-парадку. Ежа добрая. Вельмі вясёлая забава — усе ў сьвяточным настроі.

Для мяне яшчэ вельмі важна, што пабыла на сваёй Багаслужбе, якая заўсёды ўзрушае мяне да сьлёз. Нажаль я ня маю гэткага шчасьця наведваць беларускую службу што-нядзелі, бо ў нашым асяродку беларускай царквы няма. Людзі, якія жывуць пры беларускіх цэрквах часам не разумеюць, якія яны шчасьлівыя.



**Радзім Гарэцкі** зь Менску. Віцэ-прэзыдэнт Акадэміі Навук Беларусі, Прэзыдэнт Таварыства «Бацькаўшчына».

Быў ужо ў Амэрыцы на Міжнароднай Гэалягічнай Канфэрэнцыі, але зь беларусамі, нажаль, ня меў нагоды спаткацца, дык можна сказаць, што ў беларускай Амэрыцы першы раз і, зразумела, на Сустрэчы першы раз.

Уражаньне вялікае. Па-першае — ўбачыў вялікую шчырасьць да бацькаўшчыны. Меў нагоду спаткацца зь людзьмі ў розных асяродках. Былі мы з Ганнай Сурмач у Нью-Ёрку і ў Нью-Джэрзі і ў Мэрыленьдзе і ў Вашынгтоне. Наведалі Кліўлендскую калёнію, Чыкагскую, пабывалі на Ніагары, у Мічыгане — уражаньняў столькі, што хопіць на цэлае жыцьцё.

Не спадзяваўся, што на Сустрэчы будзе гэтак шмат людзей. Новыя спатканьні, дыскусыі, разважаньні, паважныя гутаркі. Вельмі ўсьцешыў мяне канцэрт — як шануецца беларуская песьня, аж душа занімаецца й сьлёзы на вачох выступаюць.

Ува ўсіх — вялікая шчырасьць да нашай Бацькаўшчыны, якая часам была ня зусім справядлівая да гэтых людзей. А з другога боку адчувацца жаль. што людзі, якія складаюць самую шчырую, самую актыўную частку эміграцыі, ужо старэюць і хутка могуць адыйсьці, а моладзь, якая пераняла-б гэта ўсё, ня зьвязаная ўжо гэтак зь Беларусьсю. Пара ўжо падумаць аб аднаўленьні. Наладзіць абмен сілаў паміж Беларусьсю й эміграцыяй.



**Алесь Міцкевіч** зь Нью-Ёрку.

Агульнае уражаньне ад Сустрэчы вельмі добрае. Людзі з розных краінаў. Прыемна бачыць гэтак шмат прадстаўнікоў зь Беларусі, якія прадстаўляюць розныя арганізацыі і ўрадавыя установы.

Сустрэча натхняе нас да далейшай і больш актыўнай працы. Гэта неабходны для нас штуршок. Нашыя Сустрэчы — гэта падзея, калі адбываецца каардынацыя ўсёй нашай дзейнасьці. Ды, апрача ўсяго прыемныя асабістыя кантакты, ды большыя кантакты зь беларускімі дзеячамі з Бацькаўшчыны, якіх на Сустрэчах бывае ўсё болей і болей. Усё гэта спрыяе агульнай камунікацыі між беларусамі.

Калі выбраць нешта адно, што найбольш спадабалася, што асабліва ўразіла — гэта вельмі ўдалая мастацкая частка.



**Джозэф Пацэвіч** з Бостану.

Гэта першая мая сустрэча. Я новы ў беларускай калёніі. Нарадзіўся я ў Амэрыцы, а гэтаксама й мае бацькі. Дзяды мае прыехалі зь Беларусі. Калі я рос, я прыпамінаю, як мае дзяды гаварылі пра «старую» краіну. Асабліва на сьвяты мы, дзеці, прасілі дзядоў расказаць пра гэтую краіну. Апявяданьні найчасьцей паўтараліся, але нам заўсёды было цікава слухаць.

Пра беларусаў Амэрыкі я даведаўся... на Беларусі, калі быў там па справах маёй працы па ахове прыроды. У Горадні я спаткаў аднаго чалавека, які мне сказаў, што ў Нью-Джэрзі ёсьць беларуская калёнія. Я зразумела, адшукаў землякоў. Так я й даведаўся, што бываюць рэгулярныя зьезды БАЗА й што кажнага другога году — Сустрэчы. І я вырашыў, што на наступную сустрэчу прыеду.

Якое маё уражаньне з Сустрэчы? Як і на ўсяляких іншых сустрэчах мэта — спаткацца, абмяняцца думкамі. І гэтым я задаволены. Я ня люблю даўгіх дакладаў, хоць пачынаю больш і больш разумець па-беларуску (дарэчы тут зазначыць, што гутарка вялася па-ангельску, а гэта яе пераклад). Я лічу самым важным на гэткіх сустрэчах спатыкацца з людзьмі. З другого боку добра й слухаць, бо гэта ўзбагачае маю мову. Яшчэ адна важная роля сустрэчаў — адчуваньне, што ты не адзін, што ёсьць грамада, розныя людзі, але яны маюць адну ідэю. І важна, што людзі пачынаюць разумець, што мы зможам больш зрабіць разам, што цяперашняя сытуацыя на Беларусі гэтага вымагае і яны чакаюць нашай падтрымкі.



**Барыс Кірка** з Таронта, адзін з арганізатараў Сустрэчы, фактычна, самая важная асоба — скарбнік.

Сустрэча вельмі добрая. Усё прайшло памысна. Амэрыканцы вельмі добра адносяцца, з грашыма ня лічацца — гэта я гавару, як скарбнік. Жаль да Канадыйцаў — яны не паставіліся так шчодра. Рэгістрацыя агульная і аплата за абеды і ўступы — гэта было новае, на нашых сустрэчах практыкуецца ў першы раз, і вынікі вельмі памысныя. Спадзяюся, што гэткая практыка будзе стасавацца й нэдалей.

Згуртаваньне Беларусаў Канады вельмі задаволенае прабегам Сустрэчы. Буду прасіць нашых маладых эмігрантаў, каб на 50-ыя ўгодкі Сустрэчаў, у 2002 годзе іноў зрабіць Сустрэчу на вадаспадзе Ніагара, як і самая першая.



Да нашай гутаркі далучыўся **Мікола Ганько**, старшыня ЗБК і арганізатар Сустрэчы, змучаны, але задаволены. Задаволены асабліва тым, што чым бліжэй да сустрэчы, то ўсё больш і больш знайшлося людзей, якія ахвяравалі сваю дапамогу. Боль за 60 асобаў прычыніласся да арганізаваньня, гэтай, на маю думку, удалай Сустрэчы.



**Ганна Сурмач** зь Менску, старшыня Рады Таварыства «Бацькаўшчына».

У Амэрыцы першы раз, хоць з эміграцыяй займалася колькі гадоў і за межамі была ўжо. Паездка нашая ў Амэрыку рабілася ў кантэксьце азнаямленьня зь беларускімі суполкамі у блізкім і далёкім замежжы, ды другая мэта, зразумела, узяць удзел у Сустрэчы.

Удзел у Сустрэчы быў вельмі важны, бо «Бацькаўшчына» падтрымлівае ідэю рэгіянальных сустрэчаў і практыка гэткіх сустрэчаў склалася толькі ў Паўночнай Амэрыцы і ў Аўстраліі. Гэта добрая нагода вывучэньня дасьведчаньня правядзеньня сустрэчаў. Ужо, да пэўнай ступені, звычай пераняты Прыбалтыкай, дзе сустрэча адбылася 6-7-га ліпеня сёлета ў Вільні.

Пажаданьні мае — больш часу на канструкцыйныя абмяркаваньні найбольш важных праблемаў. Было-б можа практычней, каб працавалі круглыя сталы, каб удзельнічалі больш актыўна у абмеркаваньні аснаўных пытаньняў.

Прыемна уразіла мяне, што беларуская грамада жыве, гучыць мова, песьні. Спадзяваньні ня толькі апраўдаліся, але й перайшлі ўсе надзеі. Людзі ўсе своеасаблівыя, разнастайнасьць тыпаў, разнакаляровасьць. Уразілі жанчыны на эміграцыі — гэта цэлы сьвет — здольнасьць арганізаваць сваё жыцьцё й прафэсыйнае й сямейнае.



**Эва Пашкевіч-Макковіл** з Ванкувэру.

На сустрэчах бывала часта. Гэтая — вельмі ўтульная, сяброўская, ня было так людна, можна знайсьці людзей, пагаварыць, гэта-ж, да пэўнай ступені, функцыя гэткіх сустрэчаў.

Мне вельмі падабалася як Алеся, мая даўняя й блізкая сяброўка, вяла акадэмію. Гэты новы фармат вядзеньня акадэміі/ канцэрту вельмі ўдалы — не занудзілася, больш уважліва слухаліся й прамовы й канцэрт.

Калі мы разьбіралі выстаўкі позна вечарам у нядзелю, прыйшло мне на думку, што агульны настрой Сустрэчы можна прыраўнаць да гэтай мастацкай выстаўкі, асабліва фатаграфіяў — былі цяжкія й безнадзейныя тэмы, калі гаварылася пра Чарнобыль, Курапаты, але былі там таксама й надзея й аптымізм і весялосьць.

**Гутарку вяла Зора Кіпель**

## ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ ЗА ДАПАМОГУ!




*Сустрэча ў Цэнтры радыяцыйнай абароны дзяцей у Менску. Сп.сп. М. Сенька й Р. Цупрык перадаюць вітаміны.* *Фота А. Кляшчука*

У ліпені сёлета група амэрыканскіх беларусаў (у асноўным з Саўт-Рывэру) правяла свой адпачынак на радзіме — у Беларусі. Спачатку землякі з-за акіяну вандравалі па гарадох і гістарычных мясьцінах Бацькаўшчыны, пасьля — разьехаліся да сваякоў і родзічаў.

Мне хочацца падзяліцца пра адзін аспэкт сёлетнага прыезду беларусаў замежжа. Пра тое, як езьдзілі яны ў шпіталі й развозілі мэдычную дапамогу хворым дзецям. Няпростымі былі гэтыя наведваньні, бо дзіцячы анкалагічны шпіталь у Бараўлянах і гэматалягічны цэнтар у Менску — месцы ня звыклыя. Наведваючы іх прыходзіла сумная думка, што ня ўсім гэтым дзеткам, якія апынуліся на шпітальным ложку, наканаванае доўгае жыццё. Цяжка бачыць дзіцячыя вочкі, у якіх безнадзейнасьць, стомленасьць і бязсільле перад хваробаю. Цяжка й горка адчуваць сябе бездапаможным, няздольным памагчы маленькай кволай кветачцы. Менавіта гэтыя пачуцьці хвалявалі Міхася Сеньку й Робэрта Цупрыка, пераступаючы парогі шпіталяў. Але за адно тое, што гэтыя людзі далучыліся да перажываньня агульнае бяды нацыі, найвялікшая ім удзячнасьць. Упэўнены, што павезьлі яны з сабою гэты боль, што падзяліліся усім перажытым з сябрамі й роднымі, што зноў і боль, што падзяліліся усім перажытым з сябрамі й роднымі, што зноў і зноў будуць зьбіраць сродкі, набываць дапамогу і адпраўляць яе на Беларусь. Хочацца падзякаваць усім беларусам, што не засталіся ў баку ад справы дапамогі.

**Анатоль Кляшчук**

## ПЕСЬНЯ ДУШЫ ЗЕМЛЯКА




*Група арганізатараў і наведвальнікаў выставы ў Вялейцы. У цэнтры Ніна і А. Сільвановічы.* *Фота А. Кляшчука*

13-га ліпеня сёлета ў Вялейскім краязнаўчым музэі была наладжаная выстава фатаграфіяў амэрыканскіх пэйзажаў. Аўтар выставы — Аляксандар Сільвановіч, грамадзкі й царкоўны дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША.

Імя аўтара было ўжо вядома ў Вялейцы і раней, але не як фатографа. У Беларусь і на Вялейшчыну сп. Сільвановіч прыязджаў з дапамогаю хворым дзяцям. Прывозіў і перадаваў мэдыкамэнты, цацкі, яду, вітаміны. Сільвановіча ведалі і як вельмі чулага да лёсу Бацькайшчыны земляка, руплівую за адраджэньне беларускае нацыі. Выстава-ж добра паказала яшчэ адзін бок гэтага чалавека, яшчэ адзін ягоны талент: бачыць прыгожае і умела, з высокім майстэрствам перадаваць яго на фотапаперы.

Фотатворы Сільвановіча маюць у сабе моцнае энэргэтычнае наладаваньне, натхняючы на разуменьне жыць у гармоніі з прыродай, берагчы і шанаваць дадзенае Богам наваколье, ствараць вакол сябе прыгожае. Гэты філязофскі падтэкст міжволі ўсплывае гледзячы на вельмі калярытныя, высока-мастацкія здымкі, хоць аўтар у першую чаргу імкнуўся пазнаёміць нас зь няведамай нам, а яму стаўшай другой радзімай, зямлёю.

Выстава не выпадкова пачалася ў Вялейцы — бо гэта радзіма Аляксандра. У час урачыстага адкрыцьця ў прысутных было ці мала пытаньняў і спадару Аляксандру разам з жонкай Нінай прышлося шмат распавядаць пра свой лёс, пра Амэрыку, пра творчасьць. Сустрэча адбылася надзіва цёплай, сяброўскай.

На адкрыцьці прысутнічалі мэр і работнікі культуры гораду, калегі, журналісты, прадстаўнікі мастацкіх суполак і грамадзкіх арганізацыяў зь Менску. Недалей гэтую выставу плянуецца паказаць і ў іншых гарадох Беларусі.

**Анатоль Кляшчук**

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

### ДАЖЫНКІ

Стараньнямі парафіяльнай управы царквы Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку, Н.-Дж., адбылося ў нядзелю 18 верасьня традыцыйнае сьвяткаваньне Дажынак. Зьехалася шмат народу. Пасьля багаслужбы, у падцаркоўнай залі адбыўся супольны абед. Як звычайна, стараннаму скарбніку парафіі сп. Аляксандру Сільвановічу давялося пасяддзець зь білетамі ля ўваходу ў залю. Айцец Васіль Андраюк благаславіў ежу. У ўступным слове сп. Васіль Русак сказаў пра бурныя палітычныя падзеі, што адбыліся ў Беларусі. Др. Янка Запруднік паінфармаваў пра праведзены ў Вашынгтоне 16 верасьня сэмінар для новапрызначанага амэрыканскага амбасадара ў Беларусь. сп. Кенэта Ялавіца. Сп. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА, прывітаў спадарства Міхася і Вольгу Тулейкаў з днём народзінаў сп. Тулейкі, заслужанага шматгадовага грамадзкага дзеяча. Спадарства Тулейкаў віншаваў таксама ў часе багаслужбы а. Васіль. Яшчэ раз прагучэла юбіляру і ягонай спадарыні «Многае лета».

Прыемна прайшоў час пад музыку й песьні Пётры Скепікі. Паэт Леанід Пранчак, стыпэндыят Фонду іня І. Любачкі, прачытаў колькі сваіх вершаў. Сп-чні Таіса і Эля Андраюк прадавалі білеты на лятарэю, на якую прыхаджане прынесьлі шчодрыя фанты. Была спраўная абслуга пры бары ў асобах сп.сп. Анатоля Семянчука і Алега Дубягі. Смачную ежу падрыхтавалі й ветліва забясьпечвалі сп-ні Галіна Харавец, Марыя Торыса і Аня Лук'янчык.

Пасеялі працу, а пажалі плён прыемна праведзенага часу й добры ўсмамін.

*З жыцьця ў Аўстраліі*

### ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

Беларусы Адэляйды штагоду адзначаюць дзень сваіх патронаў Пятра й Паўла. У нядзелю, 17-га ліпеня царква Сьвятых апосталаў Пятра й Паўла напоўнілася вернікамі. А 10-ай гадзіне раніцы пачалася літургія, якую адслужыў а. Міхась Бурнос. Пасьля сьвятой літургіі адбыўся малебен, які закончыўся Крэсным ходам вакол царквы.

У прыцаркоўнай залі адбыўся супольны абед, падрыхтаваны Сястрыцтвам, за што ім шчырае дзякуй. Старшыня парафіяльнае рады сп. Уладзімер Акавіты павіншаваў прысутных з прыстольным сьвятам і падзякаваў усім за актыўны ўдзел у дні сваіх патронаў. Хвілінаю цішы ўшанавалі ўсіх адыйшоўшых ад нас прыхажаноў, якія ўклалі сваю ахвярную працу ў будову Царквы й залі.

За смачнымі пачастункамі, у прыемных гутарках, са сьпевамі народных песьняў бяседа зацягнулася да 5-ай гадзіны па-паўдні.

**У. Акавіты**

### ГУЛЬНІ «ДОБРАЗЫЧЛІВАСЬЦІ»

Сёлетнія спартовыя гульні «Добразычлівасьці» (Goodwill Games) адбываліся ў жніўні ў Пецярбургу, у Расеі.

З 56 краінаў-удзельнікаў Беларусь атрымала 6-ае мейсца, здабыўшы 23 мэдалі: 3 залатых, 6 срэбных і 14 бранзовых.

Маем чым ганарыцца. Слава нашым беларускім спартсмэнам!

**К. Верабей**

## ПЁТРА КРАЎЧАНКА НА СУСТРЭЧЫ Ў СКАРЫНІНЦЫ

У суботу дня 20-га жніўня Управа ЗБВБ ладзіла сустрэчу з былым Міністрам Замежных справаў Рэспублікі Беларусь сп. Пётрам Краўчанкам.

У заступстве старшыні ЗБВБ Я. Міхалюка, прывітальные словы сказаў А. Зданковіч, зазначаючы, што сп. Пётра Краўчанка нам блізка знаёмы з памятнай сустрэчы тут, у Лёндане мінулага кастрычніка.

У сваім дакладзе на тэму Незалежнасьць Беларусі, сп. Краўчанка зазначаў, што спаўняў абавязкі Міністра Замежных справаў РБ праз 4 гады й чатыры дні. Працаваць у складзе Ураду, ня так папулярнага нялёгка. Мінулыя 2 гады працаваў цяжка. Было падпісана 958 міждзяржаўных пагадненьняў. Ужо функцыянуюць у сьвеце 22-е амбасады і падрыхтоўваюцца да адкрыцьця яшчэ 10.

Далей дакладчык закрануў шмат тэмаў, якія турбуюць беларусаў як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў замежжы: Чарнобыльская бяда, эканамічны стан на Беларусі, малая нацыянальная сьведамасьць. «Спатрэбіцца 10-12 гадоў — зазначыў сп. Краўчанка — да сапраўднае незалежнасьці». Аднак заўважаюцца й пазытыўныя зьявы. Сяньня 79% моладзі вучыцца ў беларускіх школах. Паступова вяртаецца беларуская гістарычная мінуўшчына.

Пётра Краўчанка працуе цяпер над кнігай пра сваю 4-х гадовую працу на пасадзе міністра замежных справаў Рэспублікі Беларусь.

Напрыканцы а. Надсон сказаў, што нас спалучае супольнае беларускае і зазначыў, якім важным было выступленьне Пётры Краўчанка у ААН у Нью-Ёрку у 1991-м годзе, дзе ён выказаў сваё крэда аб незалежнасьці Беларусі.

Дакладчык адказаў на шматлікія пытаньні.

**А. Зданковіч**

### Беларускія музыканты ў Скарынінцы

Дня 29-га ліпеня вяртаючыся з гораду Bath, дзе ў днях 22-28 ліпеня яны давалі канцэрты, група Музычнага ліцэю Беларускай дзяржаўнай кансэрваторыі у складзе 30 дзяўчат-музыкантак і 5 дарослых мужчын, наведалі Лёндан.

Пасьля агляду Скарынінкі і капліцы св.св. Пятра ў Паўла, госьці прыбылі у залю на скромны пачастунак.

На залі цёплыя прывітальныя словы па-беларуску сказаў аўтар гэтых радкоў, а па-ангельску выказаў удзячнасьць арганізатарам С. Дзейка.

Мілая, на жаль кароткая сустрэча з моладзьдзю і яе праваднікамі, хутка праляцела. Дзяўчынцы-цымбалістцы найбольшае дзякуй за некалькі мэлёдыйных напеваў, якімі яна выказала тое, што амаль кожны адчуў — радасьць такой сустрэчы.

**А.Зданковіч**

*Зь беларускага жыцьця Францыі*

# КРУГОМ СТАЛА



*(1) Мікола Цудзік, (2) Міхась Наўмовіч, (3) Сьвятлана Вярба, (4) Мікола Цудзік (малодшы), (5) Васіль Ржавуцкі, (6) Міхась Ржавуцкі і (7) Ігар Добры. Рысунак М. Цудзіка (старэйшага)*

Быў адзін са жнівеньскіх вечароў, калі кругом стала засела група мастакоў зь Беларусі, да якое далучыўся я, як беларускі эмігрант у Францыі і таксама мастак, бо лёс даў мне шчасьце студыяваць (1947-1952) у францускай Нацыянальнай Мастацкай Акадэміі.

Было гэта ў Парыжы, на 65, Rue de Gravilliers, у памешканьні Душапастырства беларусаў каталікоў, дзе таксама ёсьць сядзіба «Хаўрусу», старой беларускай арганізацыі эмігрантаў у Францыі, заложанай у 1931-ым годзе.

Калі я ўсім прысутным, пры накрытым стале з пачастункамі прывезенымі зь Беларусі, расказваў пра нашую эміграцыю і гэтую краіну, прыхільную для нас, Францыю, Мікола Цудзік увесь час нас усіх рысаваў. Ён гаварыў і паўтараў, як яму прыемна быць на такім вечары ў Парыжы ды адчуваць тую радасьць неспадзяванага спатканьня беларусаў «усходніх», гэта значыць, якія жывуць на Бацькаўшчыне, з «заходнімі», што жывуць у Заходніх краінах дэмакратычнага сьвету. Я поўнасьцю падзяляў ягоную пацеху, бо мне таксама было вельмі прыемна пагаварыць зь імі, ды паслухаць мэлёдыі Сьвятланы Вярбы, першае скрыпкі з Кансэрваторыі музыкі ў Менску ды гітары й сьпеваў Ігара Добрага. Большасьць песьняў кампазыцыі самога Ігара, пераважна на словы Максіма Багдановіча. Вакно было адчыненае, бо надвор'е стаяла цёплае, а вуліца Гравіе вузенькая, дык насупраць французы паадчынялі вокны і слухалі мілагучныя беларускія мэлёдыі.

Падобны вечар мы паўтарылі назаўтра, калі Лявон Шыманец, які даведаўся ад мяне аб прыезьдзе ў Парыж мастакоў, прывёз шмат напіткаў ды розных пачастункаў. Ізноў кругом стала мы слухалі прыгожыя беларускія песьні, а каля сьценаў стаялі на падлозе абразы Міколы Цудзіка, бацькі й сына, маладога Васіля Ржавуцкага, ды на другім стале мастацкія вырабы з гліны Міхася Ржавуцкага. Што за збор мастакоў! Нас было восем асобаў і ўсе мастакі, бо Лявон Шыманец таксама малюе і робіць прыгожыя фатаграфіі.

На трэйці дзень мы сабраліся 15 км. ад Парыжу, у адным ягоным прадмесьці — Villepinte. Гэтым разам кругом стала было каля 20-ёх асобаў, а частка зь іх французы. Да групы мастакоў далучыліся Ганна Наўмовіч і яе муж Фрэдэрык, абодвы мастакі. Ганна мае дыплём вышэйшай школы графікі Парыжу, а Фрэдэрык студыяваў у аднэй з прыватных школаў мастацтва.

Вечар прайшоў у надзвычайна сымпатычнай, цёплай атмасфэры. Мы мелі гэтаксама вялікую прыемнасьць, што да нашай кампаніі далучыўся адзін дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі, Уладзімер Новік, які ў той час быў якраз у Парыжы.

Пасьля вячэры ўсе селі ў другой залі, ды мелі прыемнасьць паслухаць выдатных артыстаў песьні й музыкі, супрацоўнікаў аднаго з каналаў беларускага тэлебачаньня Сьвятланы Вярба й Ігара Добрага. Я стаяў побач і рабіў пераклады і паясьненьні зь беларускай мовы на францускую, ды з францускае на беларускую, бо зацікаўленьне было вялікае, а пытаньняў шмат. Канцэртовая частка закончылася каля першай гадзіны раніцы, а спатканьне яшчэ працягвалася. Было шумна й весела, сьмехі ды воплескі, вымена адрасоў і падарункаў... Мастакі пакінулі амаль усе свае абразы, а Міхась Ржавуцкі свае гліняныя вырабы для прысутных на імправізаваным канцэрце. Былі чутныя мовы беларуская, француская, ангельская, а некаторыя дапамагалі рукамі, каб нешта лепш выказаць. Толькі а 2-ой гадзіне раніцы мастакі вярнуліся да «сябе» на начлег, на вуліцу Гравіе.

Гэткія спантанічныя, неспадзяваныя спатканьні ня толькі дадаюць жывейшага колеру да нашага штодзённага, часамі крыху манатоннага жыцьця, але таксама дазваляюць навязваць кантакты, а пасьля й новыя спатканьні, якія карысныя і адным і другім. Нашыя суайчыньнікі з Бацькаўшчыны патрабуюць збліжэньня з эміграцыяй, а наша дыяспара, параськіданая па ўсіх кутках сьвету, патрабуе кантактаў зь людзьмі, якія жывуць на Беларусі. Гэтыя кантакты й супрацоўніцтва ўзмацняюць нашыя сілы, якія нам патрэбныя каб захаваць незалежнасьць Беларусі і ўсьцяж весьці яе да лепшае будучыні.

**М.Н.**

*ЗЬ ПЕСЬНЯЙ ПА СЬВЕЦЕ*

Да гэтага загалоўка трэба дадаць «зь беларускай песьняй», бо ў самай справе ходзіць аб беларускую песьню.

На пачатку жніўня сёлета, ужо ў другі раз прыбыў у Бэльгію ансамбль зь Беларускага Ўнівэрсытэту Культуры ў Менску «Красавік». Ансамбль складаецца з вучняў і прафэсароў гэтага Ўнівэрсытэту, у складзе 14 асобаў: 10 жанчынаў і 4 мужчыны. Кіраўніком ансамбля зьяўлаецца прафэсар Уладзімер Зяневіч, пры асыстацыі спні Натальля Смольская-Зяневіч (скрыпачка) й Тацьцяна Стэфановіч (цымбалістка).

Група гэтая прыбыла сюды на запросіны й пры дапамозе аднае бэльгійскае арганізацыі, якая займаецца дапамогай пацярпеўшым аварыі Чарнобыля. Памешканьне ўдалося, знайсьці дзякуючы маім пошукам і ходаньнямі сп-ні Зоі Смаршчок, ў Манастыры Цэзарскай Гары, у якім жыў некаторы час і там памёр Епіскап Балеслаў Слосканс. Ехаўшы у Бэльгію ансамбаль, ніякае канкрэтнае праграмы ня меў. «Будзем самі арганізаваць зазначыў сп. Зяневіч, выступаць у кафэйках, на пляцоўках і г.д.»

Аднак, на нашую думку, гэтага далёка не хапіла-б. Супольнымі высілкамі удалося заарганізаваць некалькі цікавых імпрэзаў.

У нядзелю 14-га жніўня адбылося выступленьне у часе Сьвятой Імшы для хворых ў шпітальнай Капліцы Лювэнскага Ўнівэрсытэту. Песьні сьпяваліся выключна рэлігійныя, некаторыя з 17-18 стагодзьдзяў. Праўда, перад Імшой, кіраўнік цэрэмоніі папрасіў прасьпяваць і пайграць некалькі народных беларускіх мэлёдыяў. Уражэньне было надзвычайнае: хворыя, некаторыя нават моцна, выходзілі з капліцы як бы адзароўленыя. Хачу тут зазначыць, што мяне вельмі ўзрушыла рэлігійная песьня «Вітай Марыя», якую можна без засьцярогаў параўняць з славутай "Ave Maria" Шубэрта ці Гуно.

У той-жа самы дзень, па-абедзе, адбылося выступленьне ў бруксэльскай вязьніцы Сан-Жыль. Атмасфэра тут спачатку была даволі напружаная. Суровы кантроль пры ўваходзе, праход праз шматлікія калідоры і г.д. у залю сьвяткаваньняў... Нарэшце ўваход самых вязьняў-глядачоў. Вязьні, у ліку каля 80 асобаў, уваходзлі па дваіх — бальшыня вязьняў складалася з афрыканцаў. Напружанасьць нашая аказалася безпадстаўнай таму, што вязьні захоўваліся вельмі карэктна.

Прымалі ўсе выступленьні зь вялікім зацікаўленьнем і з гарачымі воплескамі. Надзвычайны посьпех мелі віртуозная цымбалістка сп-ня Тацьяна Стэфановіч у суправаджэньні скрыпачкі сп-ні Натальлі Смольскае-Зяневіч і акардыяніста Вадзіма Шведа. Пасьля безьперарыўнай, паўтарыгадзіннай праграмы здавалася, што нікому не хацелася пакідаць залю. Вязьні выходзілі зноў па двух з воплескамі й з выкрыкамі «брава».

Наступнае выступленьне адбылося ў вышэй успомненым Манастыры Цэзарскай Гары. Галоўная заля гэтага Манастыру была перапоўнена. Абшырная праграма складалася з рэлігійных і народных беларускіх песьняў. Посьпех быў надзвычайны, асабліва адзначылася цымбалістка, спня Натальля Стэфановіч.

У нядзелю 21 жніўня зноў выступленьне ў вязьніцы, але гэтым разам у Мэхэлен, нейкіх 25 км. на поўнач ад Бруксэлі.

Вечарам гэтага-ж дня ансамбль быў запрошаны ў горад Сінт Тройдэн, дзе знаходзіцца сядзіба арганізатараў чарнобыльскае дапамогі. Тут была наладжаная вячэра, а пасьля канцэрт. Трэба прызнаць, што заля ня была «перапоўненая». Але атмасфэра панавала вельмі прыхільная й гарачая. Пасьля канцэрту прысутныя цікавіліся паходжаньнем ансамблю і г.д.

Варта зазначыць, што сп. Зяневіч даволі цікава перадае беларускі фальклёр. Ён выражае яго ў натуральным аспэкце. Цікава, што ансамбль выконваў усю праграму «на памяць», безь ніякае паперкі ні для нотаў ні для слоў. Таксама, акрамя рэлійчных песьняў, ансамбль сьпяваў без дырыгента. Дырыгент, ці лепш кіраўнік ансамблю, сп. Зяневіч, удзельнічаў у выкананьні праграмы разам з усімі.

«Красавік» запрошаны на міжнародны фэстываль, які адбудзецца таксама ў Бэльгіі, у лістападзе сёлета.

**Я. Жучка**

# УГОДКІ ВІЛЕНСКАЙ ГІМНАЗІІ



У траўні сёлета ў Вільні адбылося адзначаньне 75-ых угодкаў Віленскай Беларускай Гімназіі. У суботу, 21-га траўня была ўрачыстая акадэмія, у часе якой былі прачытаныя прывітальныя лісты ад Натальлі Арсеньневай, найстарэйшай з жывых выпускнікоў (1921 год) Гімназіі, ад праф. Барыса Кіта, былого выкладчыка ў ёй і іншых асобаў. Былі канцэрты. Зь Менску прыехаў і выступаў мастацкі ансамбаль «Бліскавіца».

У нядзелю, 22-га траўня адбылося ўскладаньне кветак на магілы былых выкладчыкаў і вучняў Гімназіі. Над магілкамі прамаўляў Лявон Луцкевіч, ведамы беларускі грамадзка-культурны дзеяч у Вільні (на фатаграфіі трэйці зправа). У цэнтры (чацьвертая зьлева), з букетам ружаў стаіць Ніна Брылеўская, сяброўка й працаўніца Таварыства Беларускай Культуры ў Вільні.

**У.Б.**

20 верасьня адыйшла ў вечнасьць на 94-ым годзе жыцьця

**ЭЎДОКІЯ ЖЫЗЬНЕЎСКАЯ**

аб чым з сумам паведамляюць сын Нікадэм з жонкай Аннай ды дзецьмі з ўнукамі і дачка Вера з мужам д-рам Вітаўтам Рамуком, дзецьмі і ўнукамі

## СЬВ. ПАМЯЦІ СЯРГЕЙ БЫКАЎ

Сяргей нарадзіўся ў Беларусі. Памёр 18-га ліпеня 1994 году. Пахаваны на магільніку Чэлтэгайм. Пакінуў у смутку жонку Ліду, двух сыноў і трох дачок. Належыў да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы у Адэлайдзе. Сьпяваў ў царкоўным хоры. Парафіяльная Рада выказвае глыбокія спачуваньні сям'і.

## Сьв. памяці Міхась Палюховіч



Адыйшоў ад нас у вечнае жыцьцё старшыня Парахвіяльнага Камітэту Саўтрывэрскай, Сьвята-Еўфрасінеўскай Беларускай Праваслаўнай Царквы Міхась Палюховіч. Ён быў глыбокаверуючым хрысьціянінам да апошніх дзён свайго жыцьця. Такім яго ўзгадавалі ягоныя бацькі.

Нарадзіўся М. Палюховіч 18-га кастрычніка 1925 году ў старадаўняй вёсцы Сэрнікі, у паўдзённай частцы беларускага Палесься, якая тэрытарыяльна заўсёды належыла да Вялікага Княства Літоўска-Беларускага, а пасьля да Менскай губэрні. Нажаль па вайне, чамусьці гэтая мясьціна была ўключана ў склад Украінскай Рэспублікі, з чым нябошчык аніяк ня мог пагадзіцца.

Падчас вайны сям'я Палюховічаў была вывезена на працу ў Нямеччыну. Пасьля вайны апынулася ў беларускім лягеры Ватэнштэт, дзе я з Міхасём упершыню й спаткаўся. Гэта быў 1945 год. Разам працавалі ў беларускім скаўтынгу, разам вучыліся ў беларускай гімназіі і былі яе выпусьнікамі.

Наступіў час эміграцыі. Прыехаў ён ў Паўночную Каралайну. Меў там нават добрую працу. Займеў аўтарытэт сумленнага работніка. Сьпяваў у хоры мясцовай мэтадыскай царквы, але цяга да свайго праваслаўнага і беларускага жыцьця перамагла. Ён пераяжджае ў Саўт Рывэр і адразу становіцца дзейным сябрам парахвіі.

Узноў-жа яму была запрапанаваная спакусьлівая магчымасьць: будучы форманам у мясцовай фабрыцы быў пераведзены ў нðвазбудованую такуюж самую фабрыку у Карбондэйль, у штаце Огаё, дзе яму прапанавалі добраплатнае становішча. Пабыўшы крыху там, моцна засумаваў за царквою, за сваім беларускім асяродзьдзем і вярнуўся.

Падчас будовы новай царквы і залі ў Саўт Рывэры быў актыўным сябрам будаўлянага Камітэту — быў скарбнікам. Быў гэтаксама скарбнікам літаратурна-грамадзкага часапісу «Беларуская Думка» і старшынём царкоўнага хору. Калі існавала беларуская школка, быў настаўнікам беларускае мовы.

Быў шчырым і адданым працаўнікам на беларускай нацыянальнай ніве. Стараўся, паводле сваіх скромных магчымасьцяў, усім дапамагчы.

Жаніўся са спадарыняй Валятынай і ў ягонай хаце зацеплілася асабістая жыцьцёвая радасьць. Аднак бязьлітасная хвароба зьвяла яго ў магілу. Чуткая, ахвярная і адданая да крайнасьці апека яго жонкі Валі сагравалі яго мукі й цярпеньні ў апошнія месяцы й дні ягонага зямнога жыцьця.

Ад свайго імя, ад імя сяброў Парахвіяльнага Камітэту, сястрыцтва, хору і ўсяе парахвіі выражаю самае шчырае спачуваньне жонцы нябожчыка Валянтыне, сёстрам: Марыі Яворскай, Надзі Юскіў у Англіі, Аньне Сенько ў Нямеччыне, братам Сьяпану і Івану, іх сем'ям і блізкім родным.

Хай Табе будзе пухам амэрыканская зямля!

Хай Табе сьняцца сны аб Беларусі, якую Ты так горача любіў!

Вечная Табе памяць, дарагі Міхась!

**Міхась Сенька**

## Сьв. памяці Кастусь Сіткоўскі



Напрыканцы травеня сёлета, на 72-ім годзе жыцьця, у самаходавай катастрофе загінуў Кастусь Сіткоўскі і гэтак трагічна скончылася нашае 50-ці гадовае сяброўства.

Нарадзіўся Кастусь у Навагрудку і там-жа атрымаў пачатковую асьвету. Перад 2-ой Сусьветнай вайной вучыўся ў Лідзкай гімназіі. У часе нямецкай акупацыі закончыў каротка-тэрміновыя настаўніцкія курсы і два гады настаўнічаў у мястэчку Ліпнішкі. На пачатку 1943-га навучальнага году, каб дапоўніць сваю асьвету, паступае на 3-ці курс настаўніцкай сэмінарыі у Навагрудку.

Летам 1944-га году ваенныя падзеі закідаюць яго ў Нямеччыну, дзе ад пачатку 1946-га году пасяляецца ў беларускім лягеры Ватэнштэт і працуе настаўнікам пачатковай школы. Апроч школы сьв. пам. Кастусь шмат дапамагае Язэпу Гладкаму ў выдавецкай справе —ды якраз іхняй супольнай заслугай было выданьне беларускага лемантара.

У канцы 1949-га году эмігруе ў Аўстралію. Тут некалькі гадоў працуе фізычна на розных прадпрыемствах, але ніколі не пакідае грамадзкае працы. Ад самага пачатку арганізацыйнага жыцьця займаў розныя становішчы ў Беларускім Аб'еднаньні Новай Паўдзённай Валіі, быў доўгагадовым дырэктарам і два гады старшынём Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі. У 1960-м годзе залажыў сваё прадпрыемства (гандаль дрэвам) і хутка дарабіўся матэрыяльнага дабрабыту.

Кастусь Сіткоўскі быў цьвёрдым, станоўчым, бескампрамісным і ахвярным беларускім патрыётам і падтрымліваў ідэалёгію Беларускай Народнай Рэспублікі.

У жалобе пакінуў жонку Бэвэрлей, сына Рыгора, дачку Ларысу і ўсё беларускае грамадзтва Сыднею. Абрад пахаваньня выканаў а. Ігар Хлябіч у Гамэбушскай Праваслаўнай Царкве.

Сьпі, дарагі Сябра, на прыязнай аўстралійскай зямлі. Няхай Табе сьніцца Замкавая Гара і сінявокая Сьвіцязь роднае Навагрaдчыны — а ў нас аб Табе застаецца Вечная Памяць!

**Сябра Міхась**

## АБВЕСТА ЗГУРТАВАНЬНЯ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

У сувязі з выпадкамі незаконнага прадстаўленьня інтарэсаў Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчыны» у замежжы асобамі, якія не маюць на гэта паўнамоцтваў, лічым неабходным давесьці да ведама ўсіх беларускіх суполак у замежжы, што прадстаўніцтва ад імя нашай арганізацыі можа лічыцца дзейным толькі ў паразуменьні з прэзыдэнтам або старшынём Рады.

Усе фінансавыя стасункі са Згуртаваньнем просім ажыцьцяўляць толькі праз Управу ЗБС.

Наш адрас: 220050, вул. Рэвалюцыйная (Койданаўская), № 15, Менск, Рэспубліка Беларусь. тэл. 76-91-94

Наш разьліковы рахунак: АКБ «Беларусь» 700307, код 795.

Валютны рахунак: 468070199-001, код 15300226 у Знешэканомбанку.

**Старшыня Рады ЗБС**
**Ганна Сурмач**

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі, фатаграфіі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп. Я. Сурвілла, Я. Жучка, У. Брылеўскі, В. Трыгубовіч, К. Верабей, Ч. Найдзюк, М. Швэдзюк, сп-ня Л. Яцкевіч, В. Рамук, А. Сільвановіч, В. Касьцюкевіч, Ю. Кіпель.

## БАЙКОТ РАСЕЙСКАМУ ПРЭЗЫДЭНТУ

Вашынгтонская Цэнтральна і Ўсходне-Эўрапейская Кааліцыя 16-х нацыянальных арганізацыяў, да якой належыць і Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (старшыня сп. Р. Завістовіч), адмовілася ад запросінаў узяць удзел у цырымоніі вітаньня ў Вашынгтоне Прэзыдэнта Барыса Ельцына, назваўшы прычынай адмовы агрэсыўнае стаўленьне Расеі да сваіх суседзяў і згоду ЗША на расейскую «сфэру ўплываў».

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Я. Баран | ам. дал. 69 |
| В. Навіцкі | 50 |
| А. Андрыца (у памяць жонкі Эўдакіі) | 50 |
| Т. Кольба | 50 |
| Ю. Беразоўскі | 30 |
| А. Маркевіч | 30 |
| С. Шыян | 25 |
| В. Касьцюкевіч | 25 |
| А. Стукаліч | 25 |
| Ю. Стагановіч | 25 |
| а. Д. Ясько | 25 |
| М. Ханяўка | 25 |
| Разам | 509 |

*Прыслана непасрэдна ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| К. і Я. Вініцкія (для выданьня «Беларуса» ў Беларусі) | 100 |
| М. Лужынскі (замест вянка на магілу К. Сіткоўскага) | 100 |
| М. Сенька (у памяць М. Палюховіча) | ам. дал. 25 |
| Э. Пашкевіч | 25 |
| А. Даніловіч (для выданьня «Беларуса» на Беларусі) | 25 |
| М. Наумовіч | 10 |
| Н. Касмовіч | 50 |

## ШУКАЮЦЬ СВАЯКОЎ

Галіна Жагун, з роду Запольскіх, шукае родных у Амэрыцы. Сястра яе бабкі Стэфанія Запольская з Ганцавічаў, Юлія Крыцкая жыла некалі пад адрасам: 207-13 Street, Jersey City, N.J.

Просім паведаміць на адрас:
220003 Горадня
вул. Кляновая 31/136
Жагун Галіна

## ПЕРШАЕ ЎРАЖАНЬНЕ АД ВЫБАРАЎ ПЕРШАГА ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСІ

У грудзях — пачуцьцяў бура,
Ў галаве — ад думак вятругі:
Звар'яцела Беларусь і, здуру,
На себе надзела ланцугі;
Канапляную зьвіла вяроўку,
Каб зрабіць дабротную пятлю
І ўсадзіць туды сваю галоўку,
Як з Расіяй пажадае «шлюб».
Не хачу пры гэтакай нагодзе
На хаўтурах Бацькаўшчыны быць.
Ці-ж сапраўды ты здурнеў, народзе,
І пажыць ня хочаш бяз журбы?

**А. Здрок**
*Ліпень-жнівень 1994 г.*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНІМ

| | |
|---|---|
| К. Калоша (са спадчыны Сяргея Карніловіча) | ам. дал. 3,000 |
| Н. Касмовіч | 260 |
| В. Мельяновіч | 200 |
| П. Урбан | 124 |
| А. і Н. Лук'янчык | 75 |
| В. Сельвясюк | 20 |
| М. Наумовіч | 10 |
| А. Маркевіч | 18 |
| А. Монід | 18 |